№24
Сьнежань 1998

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"



Мінск. Вясна-96: першыя выступленьні апазіцыі супраць"аб'яднаньня" і першыя рэпрэсіі...

# Шлях у нікуды

***25 сьнежня прэзідэнты Беларусі і Расіі падпісалі яшчэ адну дэкларацыю аб намерах аб'яднаць свае дзяржавы...***

Пэўна ж, у гісторыкаў наступнага стагодзьдзя будзе час і магчымасьць разабрацца ў той палітычнай валтузьні, што адбывалася напрыканцы нашага стагодзьдзя вакол аб'яднаньня Беларусі і Расіі спачатку ў Саюз дзяржаваў, потым саюзную дзяржаву і нарэшце — у адну дзяржаву. Яны ўжо будуць ведаць вынікі гэтае мышынае мітусьні і змогуць даць дакладныя ацэнкі ўсім удзельнікам яе. Пра тое ж, што ад пачатку гэтая ідэя ня мела і ня мае цяпер ніякіх персьпектыў, мы можам гаварыць ужо сёньня. Кожны бок у "справе яднаньня" пераследуе нейкія пэўныя свае мэты — тактычныя ці стратэгічныя — і ня болей за тое. Гэта відавочна. Як відавочна і тое, што менш за ўсё прэзідэнты-палітыкі ды іх паплечнікі думаюць пры гэтым пра свае няшчасныя, зьнясіленыя крызісамі і жабрачым становішчам народы.

Чарговы пакет дакументаў "па далейшай інтэграцыі нашых краінаў" прэзідэнт Беларусі назваў падарункам "братнім" народам да Навагодніх сьвятаў. І хоць пры бліжэйшым разглядзе аказалася, што "падарунак" ніводную краіну зноў ні да чаго не абавязвае, што ў іхніх узаемаадносінах абсалютна нічога не зьмяняецца, сваіх мэтаў ён дамогся: рэкламная кампанія, разгорнутая ў краіне да падпісаньня і пасьля яго, дала магчымасьць хоць на час адарваць увагу народу ад набалелых праблемаў, ад пустых прылаўкаў у крамах, ад дарагавізны і безграшоўя і зноў даць яму надзею на тое, што "Расія нам дапаможа, Расія купіць у нас нашыя тавары, якія непатрэбныя на Захадзе..."

Беларусы могуць глядзець расійскае тэлебачаньне і з большага ведаюць становішча ў эканоміцы суседзяў і думкі тамтэйшых палітыкаў пра "аб'яднаньне". Расіяне беларускае тэлебачаньне не глядзяць. І ў гэтым іх шчасьце (расійскія тэлеканалы таксама ўсю праўду пра Беларусь не паказваюць). Інакш яны б ведалі з кім зьбіраюцца яднацца. Бачылі б ня толькі наш фасад, але і сьметнік. Справа, вядома ж, ня ў тым, што па беларускім тэлебачаньні паказваюць праўду пра нашае вартае жалю эканамічнае становішча. Якраз наадварот. Мяркуючы па тэлебачаньні, эканамічныя паказчыкі растуць, як і дабрабыт народа (хоць растуць толькі дэфіцыт тавараў ды чэргі каля крамаў). Пазнаўшы ў БТ тое, савецка-

(Заканчэньне на стар.2)

## Хроніка

***10 сьнежня*** **адміністрацыя Ленінскага раёну г.Бабруйска адмовіла Бабруйскай рэгіянальнай арганізацыі Беларускага Хельсінкскага Камітэту ў правядзеньні пікету каля помніка ахвярам палітычных рэпрэсіяў, з нагоды 50-ых угодкаў абвяшчэньня Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Падставай для адмовы кіраўніка адміністрацыі С.Барадаўкі паслужыў той факт, што ў Бабруйску ўсе акцыі такога кшталту дазволена праводзіць толькі на стадыёне ААТ «Фандок». Але правесьці акцыю на стадыёне таксама не дазволілі.**

***11 сьнежня*** **старшыня пярвічнай арганізацыі Свабоднага прафсаюзу металістаў Мінскага трактарнага заводу Вячаслаў Козел быў зьбіты ахоўнікамі пры спробе прайсьці ў будынак адміністрацыі МТЗ. У В.Козела была глыбока параненая рука. Ён плануе зьвярнуцца ў пракуратуру.**

***11 сьнежня*** **ў г.Гродна адбыўся несанкцыянаваны пікет у гонар 50-ых угодкаў абвяшчэньня Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Удзельнікі пікету трымалі плакаты, на якіх былі напісаныя артыкулы дэкларацыі. У пікеце прымалі ўдзел прадстаўнікі БНФ, БСДГ і Гродзенскага рэгіянальнага Праваабарончага Цэнтру пры грамадскім аб'яднаньні "Ратуша".**

***15 сьнежня*** **актывісты Беларускай асацыяцыі маладых палітыкаў (БАМП) арганізавалі бясплатную падпіску на незалежную прэсу сярод рабочых Мінскага падшыпнікавага заводу. Стаўшы пад канец зьмены каля прахадной, яны прапаноўвалі рабочым падпісацца на выбар на адно з незалежных выданьняў. Рабочыя з энтузіязмам успрынялі гэтую ініцыятыву.**

(Заканчэньне на стар.6)

# Правапіс апраўданы...

## Газета "Наша Ніва" выйграла судовы працэс

У вышэйшым гаспадарчым судзе з 14 сьнежня аднавіліся паседжаньні па справе газеты "Наша Ніва". Як вядома, рэдакцыя газеты вымушаная была праз суд аспрэчваць законнасьць папярэджаньня, вынесенага ёй Дзяржкамітэтам па друку 29 траўня за карыстаньне дарэформенным беларускім правапісам ("тарашкевіцай").

Эксьперты-моваведы на запыт судзьдзі Ірыны Пятуховай адказалі адназначна: паняцьця "агульнапрынятыя нормы выкарыстоўваемай мовы" у дачыненьні да беларускай мовы не існуе. У іншых пытаньнях меркаваньні эксьпертаў падзяліліся. Частка камісіі лічыць, што "выкарыстаньне правапісу, які існаваў у Беларусі да 1933 году, ёсьць парушэньне сучасных правілаў правапісу беларускай мовы". Аднак трое ўдзельнікаў эксьпертызы – А.Булыка, Г.Цыхун і Б.Плотнікаў – выказалі свае асаблівыя меркаваньні. Агульны сэнс іх у тым, што "НН" ніякіх нормаў мовы не парушала, а правілы, уведзеныя ў сталінскія часы ўладамі прымусова, ніяк нельга лічыць "агульнапрынятымі" (тым больш, што трэцяя частка Беларусі тады ўваходзіла ў склад Польшчы). Яшчэ адзін з сяброў камісіі па справе "НН", прафесар Сьцяцко з Гродна, ня змог прыехаць у Мінск, але даслаў свой пісьмовы адказ, у якім сказана, што пастанова СНК 1933г. "Аб зьменах і спрашчэньні беларускага правапісу" была грубым палітычным умяшаньнем дзяржавы ў працэс разьвіцьця мовы.

Да справы былі далучаныя больш як 200 лістоў ад чытачоў "НН" у падтрымку пазіцыі газеты. На думку прадстаўнікоў рэдакцыі, ужо нават гэта можа сьведчыць пра не"агульнапрынятасьць" пасьлярэформеннай мовы.

У адказ на запыт суда сваё слова сказалі і дэпутаты дзеючага парламенту. Як гаворыцца ў лісьце за подпісам Г.Аляксеенкі, намесьніка старшыні камісіі па правах чалавека і міжнацыянальных адносінах Палаты прадстаўнікоў, тлумачэньне Закону аб друку не ўваходзіць у кампетэнцыю "палаты". У дадатак сп.Аляксеенка выказаў намер ініцыяваць распрацоўку Нацыянальным сходам шэрагу новых законапраектаў: аб тлумачэньні арт. 6 Закону аб друку і аб зьменах у Кодэксе аб адміністратыўных парушэньнях.

На адно з паседжаньняў суда быў запрошаны таксама і старшыня эксьпертнай камісіі Акадэміі навук сп.Лукашанец. Адказваючы на шматлікія пытаньні, сп.Лукашанец заўважыў жартам, што "адчувае сябе як падсудны". Хоць старшыня камісіі і лічыць агульнапрынятымі "нормы сучаснай граматыкі", аднак ён ня стаў адмаўляць існаваньне двух варыянтаў беларускай мовы. І ня ўзяў на сябе адказнасьць меркаваць пра мову СМІ, заявіўшы, што гэта ўжо не ягоная кампетэнцыя. Дарэчы, юрыдычны прадстаўнік "НН" Міхаіл Пастухоў выказаў думку пра немагчымасьць рэгламентацыі ўладай мовы недзяржаўнай прэсы – як і жорсткія абмежаваньні мовы ўвогуле.

Галоўны рэдактар "НН" Сяргей Дубавец прасіў спыніць дзеяньне папярэджаньня хоць бы да часу, пакуль з тлумачэньнем Закону аб друку вызначыцца дзеючы заканадаўчы орган краіны – Нацыянальны сход. Аднак прадстаўнік Дзяржкамдруку Аляксандр Баранаў настойваў на тым, што такога спыненьня не прадугледжвае Закон аб друку. Паказальна, што сярод іншых пастановаў ураду Беларусі аб мове сп.Баранаў абапіраецца на рэпрэсіўную пастанову "Савета народных камісараў" 65-гадовае даўніны...

22 сьнежня суд абвясьціў сваё рашэньне. Яно стала сенсацыйным, хоць і чаканым: папярэджаньне Дзяржкамдруку ў дачыненьні да рэдакцыі газеты "Наша Ніва" прызнанае незаконным, дзеянне яго спыненае, усе выдаткі па працэсу (больш як 2 мільёны рублёў) ускладзены на адказчыка – Дзяржкамдрук РБ. Карыстаньне "тарашкевіцай" ад гэтага дня суд ня лічыць парушэньнем...

**Яна ЖДАНОВІЧ**

# Шлях у нікуды

( Пачатак на стар. 1)

брэжнеўскае тэлебачаньне, мажліва, многія з расіянаў не захацелі б вяртацца назад у хлусьню. А яшчэ б у беларускіх навінах, якія цяпер называюць "і гэта ўсё пра яго і трошкі пра надвор'е", яны б наслухаліся беларускага прэзідэнта, які са сваім электаратам, у адрозьненьне ад замежнага, бывае бязьмежна шчырым (ажно часам сорамна за яго). І зразумелі б, што гэта за чалавек... Папуліст па прызваньні, ён дзеля дасягненьня сваіх мэтаў ня спыніцца ні перад чым, што сьцьвердзіў і сьцьвярджае штодня ў Беларусі. Што яму правы і свабоды асобнага чалавека, калі ён не зважае нават на цэлы народ.

Пасьля 17 жніўня захістаўся трон пад старым і хворым Ельцыным. І ён вырашыў згуляць на лукашэнкаўскім полі. І прайграў. Гэта ўжо відавочна. Бо адразу ж даў падставу прэзідэнту Беларусі заявіць, што, маўляў, Ельцын вырашыў рэабілітавацца за развал СССР у Віскулях...

Ніхто сёньня ня будзе спрачацца з думкаю, што аб'яднаньне Беларусі і Расіі ўласна тым, дзеля каго ян , нібыта задумана — двум народам анічога ня дасьць. Гульня ў яго трэба двум прэзідэнтам (найперш беларускаму), каб свае пралікі і бяздарнасьць у эканоміцы зваліць на "развал Саюза" і даць надзею людзям, якія прывыклі верыць: "пацярпіце, вось аб'яднаемся і тады зажывем..." Гульня гэтая трэба расійскім шавіністам-рэваншыстам, якія лічаць Беларусь, як і іншыя былыя савецкія рэспублікі, "исконно-русской землей". Трэба вайсковым оршакам, каб адсунуць далей на захад сваю ядзерную зброю, трэба гора-эканамістам, каб займець "транспартны калідор" (чаму б тады не далучыць і Польшчу, як працяг калідору, а там і Германію...), трэба камуна-фашыстам і неабальшавікам, якія скарыстоўваюць яе ў сваіх ідэалагічных мэтах... і яшчэ многа каму, але толькі не шматпакутным народам. Мы жывем не на асобных астравах і нават не праз дарогу, а побач. І нікуды мы ад гэтае блізкасьці не падзенемся. Дык ці не час кожнаму будаваць свой Дом, адбудоўваць сваю радзіму, а не спадзявацца на суседа... Трэба жыць сёньня, а не спадзявацца на "сьветлае заўтра". Досыць, нас ужо больш за семдзесят гадоў падманвалі ім камуністы..

Шкада толькі, што такі дарагі для кожнага чалавека паасобку час жыцьця губляецца на шлях у нікуды...



**Андрэй НАЛІВА**

## Юры ХАДЫКА:

# "Такіх вар'яцкіх пакараньняў няма нідзе ў сьвеце..."

***За арганізацыю і правядзеньне мітынгу, прысьвечанага 50-ці годзьдзю прыняцьця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, быў арыштаваны і асуджаны на 10 сутак зьняволеньня вядомы дзеяч апазіцыі, намесьнік старшыні Беларускага Народнага Фронту Юры Хадыка. Пасьля сканчэньня тэрміну зьняволеньня з ім сустрэўся наш карэспандэнт.***

***— Спадар Юры, пасьля арышту і галадоўкі ў 1996-ым годзе пра вас і вашага паплечніка В. Сіўчыка пісала прэса ўсяго сьвету. Ці адчулі вы нейкае іншае стаўленьне да сябе падчас нядаўняга 10-суткавага арышту?***

— Вядома, у мяне там, у сьпецпрыёмніку, было некалькі "старых знаёмых", якія гаварылі: "Юры Віктаравіч, а памятаеце, мінулым разам..." Гэта былі, зразумела, супрацоўнікі сьпецпрыёмніка. Дзеля параўнаньня можна сказаць, што рэжым утрыманьня зьняволеных стаў мякчэйшым. Паўтары гады таму разам са мною былі арыштаваныя некалькі чалавек, але нас раскідалі па розных камерах. Цяпер самі ахоўнікі нашую камеру называлі "камерай палітычных". Да нас не падсаджвалі бамжоў. У сьпецпрыёмніку, дзе прыходзіцца па два квадратныя метры на чалавека, бамжы — непрыемная акалічнасьць: нямытыя, вашывыя... Спачатку з намі сядзелі выключна ўдзельнікі мітынгу, а калі ў некаторых тэрміны скончыліся, пачалі "падсяляць" людзей, затрыманых за парушэньні "валютных аперацыяў" і заканадаўства аб дробным прадпрымальніцтве. Галоўным чынам гэта былі інтэлігентныя людзі. У гэтым сэнсе, у параўнаньні зь мінулым, адбываць тэрмін цяпер стала крыху лягчэй. А наогул зьменаў амаль няма: тая ж мізэрная плошча на аднаго затрыманага, знаходжаньне прыбіральні тут жа ў камеры, адсутнасьць нармальнага сьвятла — вакенцы вузенькія, лямпачкі бляклыя... Чытаць цяжка. Хоць, з іншага боку, зараз дазволена атрымліваць газеты ды часопісы з волі — гэтага раней не было. Мінулым разам мне забаранілі нават узяць з сабою акуляры, цяпер можна было.

Такім чынам, у некаторым сэнсе рэжым утрыманьня памякчэў. Трэба адзначыць унёсак у гэтую справу журналістаў і палітыкаў. Спадар Шчукін — адначасна і журналіст, і палітык. Дзякуючы ягоным намаганьням цяпер праз кожныя сем дзён — памыўка ў душавой. Раней гэтага зусім не было.. Шчукін дамогся таго, што цяпер праз раз давалі лыжкі з тронкамі, а не абламаныя. Камера нашая была "невывадная". Большасьць вязьняў гэтага сьпецпрыёмніка маюць магчымасьць па некалькі гадзінаў у суткі працаваць. Гэтак чалавеку значна лягчэй пераносіць ізаляцыю. Нас на працу не выводзілі. Акрамя таго, гарачую ежу давалі нам праз дзень. Калі б не праваабарончыя арганізацыі, якіх, дарэчы, у 1996-ым годзе яшчэ не было, нам давялося б цяжка. А так мы мелі перадачы, якімі разам з намі харчаваліся ўсе ў камеры. Гэта, безумоўна, спрыяла нармалёвым адносінам і больш лёгкаму перажываньню ізаляцыі.


Юры ХАДЫКА

***— Гэта быў ня першы ваш арышт. Я чула, што яшчэ за савецкім часам вас кідалі за краты за палітычную дзейнасьць.***

— Я быў асуджаны ўпершыню ў 1989-ым годзе за першы "Чарнобыльскі шлях". Тады ў судзе Маскоўскага раёну Мінска мне быў вынесены вельмі сьмешны, па сёньняшніх мерках, прысуд: 2 месяцы прымусовых работ з вылікам 20 працэнтаў з майго заробку на карысьць дзяржавы. Я ні ў які сьпецпрыёмнік не трапляў, з майго заробку проста вылічалі па сто рублёў на працягу двух месяцаў. Узмацненьне пакараньняў за адміністратыўныя парушэньні — гэта адметная рыса рэжыму Лукашэнкі. Штрафы сталі празьмерна буйнымі з 1997-га году, пасьля "славутага" дэкрэту №5 — тады аднаразовыя штрафы дасягнулі сярэднегадавога заробку звычайнага чалавека. Такіх вар'яцкіх пакараньняў няма нідзе ў сьвеце. Фармальна, калі чалавек ня ў тым месцы перайшоў вуліцу ці непаразумеўся з міліцыянтам, міліцыя мае права яго затрымаць, і гэта ўжо ёсьць адміністратыўнае пакараньне. Пасьля таго, як у Закон аб выбарах быў унесены пункт аб забароне ўдзелу ў выбарах людзей, якія панесьлі адміністратыўнае пакараньне — стала зразумелая гэтая жорсткасьць: рэжым баіцца ўсяго на сьвеце, любога супраціву, любога іншадумства.

***— Натуральна, афіцыйна не ўдакладняецца, што гаворка ў гэтым законе ідзе пра ўдзельнікаў палітычных акцыяў. Таму пад гэты пункт трапляюць і тыя, хто, скажам, улез у нейкую бойку ці патрапіў у дарожна-транспартнае здарэньне...***

— ... каго пакрыўджаная жонка "здала" у стане падпітку ці "валютчыкі", людзі, якія мяняюць даляры на рублі... Абсурд, бо супраць "валютчыкаў", часам простых грамадзянаў, якія з-за нявыгаднасьці і штучнасьці абменнага курсу, вырашылі памяняць свае грошы не ў дзяржаўным банку, распачатая цэлая кампанія. У газетах нават друкуецца інфармацыя пра тое, колькі дзяржаўныя органы адабралі ў іх грошай. Мала таго, што дзяржава іх абабрала, дык яшчэ і пазбавіла права ўдзельнічаць у выбарах... І гэта ў год юбілею Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, калі ва ўсім сьвеце надаецца такая ўвага захаваньню правоў чалавека...

***— Спадар Юры, колькі разоў вас судзілі пры камуністах і пры Лукашэнку?***

— Наогул — каля дзесяці разоў. Прычым, за савецкім часам тройчы, і кожным разам пакараньне было ўсё меншым. Рэжым губляў сілу літаральна на вачах. Калі ў канцы 89-га года за вулічныя акцыі яшчэ судзілі, то ў 90-ым гэтыя справы альбо спынялі, альбо выносілі папярэджаньне. У 1991-94 гадах зусім не было перасьледу. Асабіста для мяне ўсё пачалося з 25 сакавіка 1996-га года. А ўвогуле, рэжым Лукашэнкі пачаў рэпрэсіі супраць іншадумцаў у 1995-ым годзе. Тады зьявілася практыка ганяцца за людзьмі на машынах, зьбіваць іх, цягнуць у пастарунак...

***— Спадар Юры, вы ўжо чалавек немалады, а зьняволеньні не дадаюць здароўя. Можа, няхай ужо моладзь была б у першых шэрагах?..***

— Я не хацеў бы супрацьпастаўляць сябе моладзі. Маладым яшчэ цяжэй пераносіць ізаляцыю, зьнявагу сваёй годнасьці, якія іх чакаюць за кратамі. Я, дзякуючы свайму ўзросту, нават у аховы выклікаю пэўную павагу, і ахоўнікі мяне не зьбівалі, як гэта здаралася з маладымі хлопцамі. Я не хачу адзьдзяляць сябе нейкім чынам ад моладзі. Гэта мой абавязак — падаваць прыклад моладзі, вучыць яе. Я думаю, вы заўважылі, што агрэсіўнасьць, якая была яшчэ ў 1996-ым годзе між дэманстрантамі і міліцыяй, сёньня практычна зьнікла. І я лічу гэта вялікай заслугай БНФ. Я і сам асабіста ня раз тлумачыў міліцыі, што мы адзін народ, што ў шэрагах дэманстрантаў іхнія браты і сёстры, і нельга з імі абыходзіцца гэтак жорстка, як было ўвесну 96-га года. Мы заклікалі жанчынаў з БНФ раздаваць кветкі міліцыянтам. Гвалту з боку міліцыі стала меней. Засталіся складанасьці ва ўзаемаадносінах са сьпецназаўцамі, іншымі сьпецатрадамі, але гэта праблемы ўжо самога рэжыму. Бо такія падразьдзяленьні ствараюцца сьпецыяльна дзеля барацьбы з апазіцыяй, людзі ў іх праходзяць сьпецпадрыхтоўку. Мне шкада гэтых хлопцаў, якія літаральна шалеюць пры адным выглядзе дэманстрантаў...

**Гутарыла**
**Тацяна СЬНІТКА**

***У Беларусі, дзе супрацьстаяньне апазіцыі і ўраду больш за дзесяцігодзьдзе носіць вельмі жорсткую форму, улады даўно ўжо, і часам даволі пасьпяхова, скарыстоўваюць спробы кампраментацыі вядомых дзеячаў супраціву. Прычым ня грэбуюць дзеля гэтага любымі сродкамі. Апошняй ахвярай «наездаў» КДБ стаў нядаўні студэнт факультэту журналістыкі Белдзяржуніверсітэту, а сёньня — палітычны эмігрант Павал Карназыцкі. У гэтага 23-гадовага юнака была тут, у Беларусі, досыць актыўная палітычная «біяграфія». Пачаўшы кар`еру актывістам Беларускага Народнага Фронту, ён потым супрацоўнічаў і з ультраправымі з партыі Свабоды, і з «памяркоўнымі» з партыі Здаровага Сэнсу, знайшоўшы, у выніку, самую блізкую сваім перакананьням — сацыял-дэмакратычную арганізацыю «Маладая Грамада». Там ягоныя здольнасьці былі заўважаныя, Павал быў абраны старшынёй арганізацыі, але адразу пасьля выбараў адбыўся скандал, які стаў вынікам заявы Карназыцкага пра тое, што ён скампраметаваны супрацоўніцтвам з КДБ. Праз пэўны час Павал зьехаў жыць у Кіеў. А нядаўна на старонках прэсы зьявілася паведамленьне аб тым, што супрацоўнік КДБ Ігар Чыж, якога Павал назваў у заяве сваім непасрэдным куратарам, скончыў жыцьцё самагубствам.***

***Павал КАРНАЗЫЦКІ, які працуе сёньня ў сацыял-дэмакратычным руху Украіны, згадзіўся адказаць на некалькі нашых пытаньняў.***

# Страта Радзімы

## стала для Паўла Карназыцкага вынікам страты рэпутацыі, справакаванай КДБ...

***— Паша, мы вучыліся з табой на журфаку ў адны і тыя ж гады, жылі ў адным інтэрнаце, і я памятаю твае сумныя словы, што табе нібыта нешта пагражае з боку КДБ. Ты сам часам пачынаў размову пра гэта, але твае сябры тады не ўспрымалі яе ўсур'ёз. Мажліва, табе варта было быць больш шчырым і настойлівым... Раскажы, калі і як пачаліся твае "кантакты" з КДБ?***

— Усё пачалося з таго, што мяне выклікала на размову ў свой кабінет намесьнік дэкана журфаку Белдзяржуніверсітэту Ангеліна Руднэнка. Яна сказала, што са мной пажадалі сустрэцца прадстаўнікі нейкае маладзёжнае арганізацыі і, што мяне ўразіла, пайшла са свайго кабінету, пакінуўшы нас сам-насам. Пагадзіцеся, гэта нонсенс, каб кіраўнік факультэту прадстаўляў другакурсьніку свой кабінет для нейкіх гутарак. Мае здагадкі пацьвердзіліся, калі я ўбачыў тых двух чалавек, якія менш за ўсё былі падобныя на актывістаў нейкае маладзёжнае арганізацыі. Мы гаварылі пра тое, што я актыўна займаюся палітыкай — і ў Мінску, і раней у сябе ў Паставах, што вось хутка будзе вялікая акцыя апазіцыі («Чарнобыльскі шлях — 96» — *аўт.*), да якой ужо ідзе падрыхтоўка. Напрыканцы, мне было сказана, што пасьля гэтае размовы я павінен буду займацца тым жа, што і раней, але — узгадняючы свае крокі з «імі». Яны напіралі на тое, што гэта ня будзе камусьці шкодным, наадварот, дасьць карысьць апазіцыянерам. У выпадку ж, калі мы паразуменьня ня знойдзем, у мяне "будуць непрыемнасьці" на факультэце. Хаця я ня быў ніколі «першым вучнем», але ж і непрыемнасьцяў асаблівых таксама ў мяне не было. Зьявіліся яны на наступны дзень, калі мне — толькі мне — абвясьцілі раптам строгую вымову за... пропускі, якіх у мяне было ня болей, чымсьці ў іншых. Вядома, адбылося гэта пасьля таго, як супрацоўнікаў КДБ я, груба кажучы, «паслаў»...

Паўтарылася сітуацыя пасьля акцыі 30 мая 1996 года, на якой я разам з двума сябрамі быў арыштаваны. Мяне раптам выклікалі ў кабінет ці то сьледчага, ці то нейкага іншага супрацоўніка сумнавядомага ізалятара «на Прылуках», дзе ўжо былі тыя ж Генадзь Угляніца і Ігар Чыж (яны назвалі тады свае імёны). Угляніца і Чыж паабяцалі, што калі я адкажу «так» на іх прапанову аб супрацоўніцтве, ніхто на факультэце пра мой арышт не даведаецца, а мяне адразу ж адпусьцяць у інтэрнат. Яны і не падумалі нават, што калі мяне раптам выпусьцяць з камеры дахаты, нічога нікому не патлумачыўшы, гэта будзе натуральны абсурд! Зразумела, я папрасіў адвесьці мяне ў камеру і пакінуць у спакоі.

Як яны і абяцалі, высьветлілася, што да сесіі я не дапушчаны. Я зьвярнуўся па дапамогу на радыё «Свабода». Журналіст Юрась Карманаў зрабіў скандальны рэпартаж. Да сесіі, урэшце, мяне дапусьцілі, але здаць яе я ня мог — гэта было немагчыма зрабіць: мне прызначылі некалькі іспытаў на адзін дзень, не папярэдзіўшы нават пра гэта. Прычым выкладчыкі прыходзілі на іспыты з пэўным настроем, якога нават не хавалі...

Пасьля таго, як мяне выключылі, у Гены Угляніцы зьявіўся новы матыў: «Ты такі здольны хлопчык, табе трэба вучыцца, і мы можам табе дапамагчы, але ты сам не жадаеш...»

***— Тады ўжо ты працаваў карэспандэнтам газеты «Здаровы сэнс» і займаўся паралельна партыйнымі справамі. У сувязі з гэтым у тваіх "знаёмых з органаў", мажліва, зьявіліся нейкія канкрэтныя прапановы да цябе?***

— Не. Як і раней, канкрэтыкі ніякае не было. Проста — прапановы «сябраваць». Пасьля таго, як Угляніца аднойчы завітаў у рэдакцыю, ён пачаў раз-пораз тэлефанаваць мне, запрашаць папіць піва ў тым ці іншым бары. Выглядала гэта як навязьліваcьць «даўняга сябра». Да пэўнага моманту я не ўспрымаў гэта ўсур'ёз, бо лічыў, што нічога больш сур'ёзнага за выключэньне з універсітэту мне пагражаць ужо ня можа. Занепакоіўся я толькі пасьля таго, як маці ў мой чарговы прыезд дахаты ў вёску распавяла мне, што прыяджалі да нас нейкія людзі як быццам з даручэньнем ад мяне забраць якіясьці мае паперы. Маці не дазволіла ім увайсьці ў хату, але гэтае здарэньне яе вельмі напалохала.

Я зразумеў, што справы мае пагаршаюцца. Стаў зьвяртацца да вядомых палітыкаў па парады — да Статкевіча, Каравайчыка, іншых. Усе яны пацiскалі плячыма ці раілі «ня браць да галавы» і адмаўляцца ад любых кантактаў.Я б так і рабіў, але 10 сьнежня 1996 года пасьля аднае акцыі апазіцыі прапаў мой сябра — хлопец з майго былога факультэту. Я пачаў пошукі яго па РАУСах, але безвынікова. Тады я і зрабіў памылку — патэлефанаваў да Угляніцы і запытаўся — ці ня ведаюць яны, што з ім. Мне адказалі, што не, ня ведаюць. На тым, як я меркаваў, усё і скончылася. Але праз нейкі час па дарозе дахаты мяне зьбіла машына, а яшчэ праз колькі дзён — пазваніў Угляніца: маўляў, усё зразумеў? Хутка я ізноў трапіў на Прылукі — гэта было пасьля мітынгу 2 красавіка 1997 года. На гэты раз усё паўтарылася — з той розьніцай, што цяпер яны пагражалі пасадзіць мяне па крымінальным артыкуле. Губляць мне не было чаго, таму я ізноў ім адмовіў. Мяне вярнулі ў камеру — але ў іншую, да крымінальнікаў, якім было даручана мяне "апрацаваць" — думаю, ня варта ўдакладняць, што мелася на ўвазе. Але крымінальнікі вырашылі не зьвязвацца з «цьмянаю працаю»... Крымінальную справу мне не «прышылі» — ізноў дзякуючы Юрасю Карманаву


На здымку з архіву "Вясны-96" адзін з арыштаў Паўла Карназыцкага

і радыё «Свабода». Наступным разам праблемы пачаліся пасьля «справы УНА-УНСО» — мяне сталі «запрашаць на размовы», каб я дапамог знайсьці падпольную друкарню, якая нібыта павінна недзе існаваць. Але мой адвакат Арсен Скаруліс параіў мне неісьці ні на якія сустрэчы пакуль не дашлюць афіцыйную паперку. Яе, дарэчы, так і не даслалі.

***— Чаму ж ты тады ня выступіў з заявай у прэсе аб перасьледзе цябе з боку КДБ?***

— Я пачаў падумваць пра тое, каб пакінуць краіну, бо Угляніца і Чыж станавіліся ўсё болей навязьлівымі. Яны казалі, што шмат хто з вядомых палітыкаў супрацоўнічае з імі, пагражалі мне тым, што ёсьць нейкія «чорныя сьпісы», у якіх фігуруе і маё прозьвішча. Казалі, што «згаворлівасьць» дапаможа мне ня толькі пазбавіцца непрыемнасьцяў, але і зрабіць кар'еру.

Але здарылася вось што. Аднойчы на вуліцы каля мяне спынілася машына, у якой сядзелі добра апранутыя мажныя мужчыны, і я не пасьпеў нават апамятацца, як аказаўся ў салоне, побач з імі... Праз зацемненыя шыбы цяжка было здагадацца, куды мяне вязуць, я зразумеў толькі, што прывезьлі мяне ў нейкі вялізны будынак. Адразу з машыны мяне павялі ў падвал, куды доўга трэба было спускацца па прыступках. На нейкі час мяне «забылі» у гэтым падвале, пасьля вывелі ў іншы кабінет і пачалі паказваць па відэамагнітафоне кіно пра тое, як у турме «апускаюць» людзей, што трапілі туды за згвалтаваньне. Потым мне патлумачылі, што майго сябра, якога я тады хацеў знайсьці з іхняю дапамогаю, можа чакаць тое ж самае — да яго пойдзе зараз група захопу, «знойдзе» у яго ў пакоі наркотыкі, а пасьля ягоным «сукамернікам» проста патлумачаць, за што ён туды трапіў. Пры гэтым увесь час па рацыі паведамлялася — машына з «апэратыўнікамі» знаходзіцца там і там, вось яна набліжаецца да інтэрнату... Хаця я цудоўна ведаў, што да наркотыкаў мой сябра ня мае дачыненьня, псіхалагічнае ўзьдзеяньне было вельмі моцным. Ня ведаю, ад чаго і чаму, але я страціў прытомнасьць... У сябе прыйшоў назаўтра ранкам на траве ў скверы імя 50 годзьдзя Кастрычніка. Падумаў тады з надзеяй, што жах гэты, нарэшце, скончыўся. Увечары, прымаючы душ, я знайшоў у сябе сьлед ад уколу і вырашыў, што гэта «яны» спрабавалі вярнуць мяне да сьвядомасьці. Я быў упэўнены, што ад мяне і тым разам нічога не дабіліся.

Тым больш, што яны пакінулі мяне ў спакоі — да таго часу, пакуль я ня стаў прэсавым сакратаром сацыял-дэмакратычнае партыі. Мне ізноў раптам пачалі тэлефанаваць, «выпадкова» сустракацца са мной на вуліцы. Зьмяніўся і ўзровень зносінаў — мне паказалі паперу, дзе маёй рукой, хаця і вельмі неахайна, было напісанае абяцаньне супрацоўнічаць з імі. Паперу гэтую яны абяцалі паказаць маім блізкім, сябрам, запэўніваючы, што я нічога не змагу растлумачыць. Я цягнуў час, спрабаваў адгаварыцца тым, што не валодаю ніякой інфармацыяй, апрача той, што паведамляю ў прэс-рэлізах. Калі ж мяне абралі старшынёй «Маладой Грамады», далей гуляць у «нязнайку» было немагчыма. Мне засталося адзінае выйсьце — пайсьці да Статкевіча і распавесьці яму ўсё. Ягоны адказ быў такі: «Чакаю ад цябе мужнага ўчынку». Я зрабіў адзінае, што мог — мы склікалі пазачарговы зьезд, на якім я па стану здароўя адмовіўся ад сваёй пасады.

Хаваць нешта ад сяброў больш ня мела сэнсу. Я ня мог у гэты час ні змагацца з КДБ, ні адстойваць сваю рэпутацыю, бо цяжка захварэла і памірала мая маці. Усё іншае, апроч яе жыцьця, ня мела для мяне сэнсу. Статкевіч тым часам падаў заяву ў КДБ, патрабуючы патлумачыць факт умяшальніцтва ў справы арганізацыі. Заяву, можна сказаць, праігнаравалі. Мяне ж некаторыя людзі пачалі называць «КДБэшнікам». І мне не засталося нічога іншага, як пайсьці на адкрытае змаганьне. Я ўжо меў стасункі з кіеўскімі сацыял-дэмакратамі, яны ведалі, што са мной здарылася, пaабяцалі дапамагчы ўладкавацца ў Кіеве. Тут жа да нас дайшла інфармацыя, што на чарговым мерапрыемстве апазіцыі мяне абавязкова возьмуць. І тады мы ўсё зрабілі хутка — раніцай склікалі маю прэс-канферэнцыю, а праз некалькі гадзінаў я ўжо ехаў у Маскву, каб адтуль дабірацца ў Кіеў.

***— І як ты ўладкаваўся на Украіне?***

— Як кажа мой таварыш па няшчасьці, таксама вымушаны выгнаньнік Мікола Прыварнікаў, тут — сытасьць, на Беларусі — жыцьцё. Сапраўды, усё засталося там, на Радзіме...

***— Ты ня можаш вярнуцца ў Беларусь, бо баішся яшчэ больш жорсткага перасьледу КДБ?***

— Не. Тут справа асабістая — я не магу вярнуцца дахаты, бо надта мала часу прайшло пасьля сьмерці маці... Да таго ж, няма ў мяне ў Беларусі месца, дзе б мяне чакалі. Добра, што не забываюць сябры, тэлефануюць, хаця некаторыя з такіх званкоў заканчваюцца выклікам «Хуткае дапамогі», сэрца не вытрымлівае эмоцыяў. Але каб не званілі, не пісалі — было б зусім невыносна.

***— Паша, ты, напэўна, ведаеш, што адзін з тых, хто набіваўся ў твае "сябры", Ігар Чыж, нядаўна скончыў жыцьцё самагубствам...***

— Я чуў, што адбылося гэта ў выніку КДБэшных унутраных «разборак». Я ніколі не жадаў сьмерці гэтаму чалавеку, як і ніякому іншаму. Калі гэта сапраўды самагубства, а не забойства, я магу яго зразумець... Пасьля аднаго з «кантактаў» з Чыжом і Угляніцай я таксама спрабаваў зьдзейсьніць самагубства. Але Бог мяне пашкадаваў: я няўмела тады гэта зрабіў і зараз ужо з прыкрасьцю прыгадваю тую сваю слабасьць...

**Гутарыла**
**Ціна ПАЛЫНСКАЯ**

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар. 1)

*15 сьнежня* ў г.Гродна памерла ў чарзе па яйкі пажылая жанчына. Гэта адбылося ў краме «Птушка» мясцовай птушкафермы.

*16 сьнежня* кіраўнік групы АБСЕ у Беларусі Ханс-Георг Вік наведаў зьняволеных дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня Андрэя Клімава і Уладзіміра Кудзінава, а таксама актывіста "Маладога Фронту" Аляксея Шыдлоўскага. Падобныя сустрэчы і візіты ў месцы зьняволеньня «зьяўляюцца часткай работы кансультацыйна-назіральніцкай групы».

*17 сьнежня* скончыўся тэрмін 10-дзённага адміністратыўнага арышту намесьніка старшыні БНФ Юрыя Хадыкі і старшыні Праваабарончага Цэнтру «Вясна-96» Алеся Бяляцкага, якія былі асуджаныя за арганізацыю акцыі 6 сьнежня, прысьвечанай 50-ым угодкам абвяшчэньня Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. У 12 гадзін у сядзібе БНФ адбылася прэс-канферэнцыя Юрыя Хадыкі і Алеся Бяляцкага. Нядаўнія арыштаваныя распавялі пра тое, як у камеры ішло змаганьне за ўласныя правы. Юры Хадыка і Алесь Бяляцкі напісалі заяву, у якой гаварылася: «утрыманьне ў размеркавальніку нават горшае за СІЗА, бо зьняволеныя ня маюць права на прагулкі, вынікам чаго зьяўляецца разьвіцьцё ўсялякіх хваробаў. Такіх як сухоты, каростa, алергія, клаўстрафобія, галаўны боль, задышка, паслабленьне апорна-рухальнага апарату і розныя нярвовыя і псіхічныя хваробы». Заяўляльнікі падкрэсьлілі, што такім чынам парушаецца іх права на ахову здароўя. Заяву падпісалі ўсе, хто сядзеў у камеры №19. Вынікам заявы стала тое, што на наступны дзень зьняволеных гэтай камеры вывелі на прагулку. Валерый Шчукін напісаў заяву на імя начальніка на правядзеньне пікету ў двары гэтай установы "супраць мышэй", якія апанавалі сьпецразьмеркавальнік. Адміністрацыя адрэагавала на гэтую гратэскную заяву самым сур'ёзным чынам: на наступны дзень супрацоўнікі санэпідэмстанцыі патруцілі мышэй. Юры Хадыка і Алесь Бяляцкі на прэс-канферэнцыі падкрэслілі, што разглядаюць свой арышт як натуральны працяг барацьбы за правы чалавека ў Беларусі.



Мінск. Сьнежань 1998 г.

*18 сьнежня* так званая Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу прыняла заяву, якая асуджае дзеяньні ЗША і Велікабрытаніі ў адносінах да Іраку (нанясеньне ракетна-бомбавых удараў). У заяве заключаныя патрабаваньні тэрміновага скліканьня Генеральнай асамблеі ААН «для разгляду пытаньня аб узброеным канфлікце, што разгарэўся ў Рэспубліцы Ірак».

*18 сьнежня* быў апошні дзень пленарных паседжаньняў пятай сесіі так званай Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. На гэтай сесіі быў прыняты закон «Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў у Рэспубліцы Беларусь». Закон забараняе ўдзел у выбарах асобаў, якія прыцягваліся да адміністратыўнай адказнасьці. Гэтая норма была ўведзеная ў закон па прапанове прэзідэнта РБ А.Лукашэнкі, які хоча такім чынам адхіліць ад удзелу ў выбарах сваіх палітычных апанентаў. Вядома, што амаль усе апазіцыйныя палітыкі прыцягваліся да адміністратыўнай адказнасьці за ўдзел у акцыях пратэсту.

У ноч *з 19 на 20 сьнежня* на Брэсцкай мытні ў сябры Праваабарончага Цэнтру «Вясна-96» Валянціна Стэфановіча была канфіскаваная праваабарончая літаратура. В.Стэфановіч накіроўваўся ў польскі горад Тэрэспаль на канферэнцыю, прысьвечаную супрацоўніцтву маладзёжных арганізацыяў Беларусі, Польшчы і Украіны. У багажы ў В.Стэфановіча былі бюлетэні Праваабарончага Цэнтру «Вясна-96» «Права на волю» (на беларускай і англійскай мовах). Інсьпектар мытнай службы, які знайшоў бюлетэні, пачаў крычаць: "Арыштаваць!" На пытаньне В. Стэфановіча: "Гэта што — кантрабанда?" ён адказаў: "Это хуже!". У выніку мытнікі забралі бюлетэні, патлумачыўшы, што літаратуру такога кшталту правозіць нельга. В.Стэфановічу сказалі, што бюлетэні будуць вывучаць на прадмет утрыманьня матэрыялаў, якія «зьневажаюць гонар і годнасьць прэзідэнта РБ і наносяць шкоду суверэнітэту Рэспублікі Беларусь». В.Стэфановіч патрабаваў, каб быў складзены пратакол пра канфіскацыю, але мытнікі адмовіліся гэта рабіць.

*19 сьнежня* Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» наладзіў у Мінску шэраг пікетаў, прысьвечаных адной праблеме — захаваньню правоў чалавека ў Беларусі.

*22 сьнежня* адбылося заключнае паседжаньне Вышэйшага гаспадарчага суда, у ходзе якога было вынесенае рашэньне па зыску газеты «Наша Ніва». Канфлікт вакол незалежнай газеты «Наша Ніва» узьнік у чэрвені 1998 г. Менавіта тады Дзяржаўны камітэт па друку вынес газеце афіцыйнае папярэджаньне за карыстаньне «тарашкевіцай» (правапісам, распрацаваным мовазнаўцам Бранiславам Тарашкевічам, які выкарыстоўваўся ў Беларусі да рэформы 1933 г., скіраванай на русіфікацыю). Рэдакцыя «Нашай Нівы» вырашыла аспрэчваць рашэньне Дзяржкамдруку ў Вышэйшым гаспадарчым судзе. Адбылося некалькі мовазнаўчых экспертызаў, якія далі заключэньне, што выкарыстаньне дарэформеннага правапісу не зьяўляецца парушэньнем закону. 22 сьнежня суд вынес рашэньне на карысьць рэдакцыі: судзьдзя М.Пятухова прыпыніла дзеяньне папярэджаньня Дзяржкамдруку ў дачыненьні да «Нашай Нівы».

*22 сьнежня* ў Мінску на факультэце Міжнародных зносінаў адбыўся круглы стол па аналізу заключных заўвагаў Камітэту па правах чалавека да чацьвёртага перыядычнага дакладу Беларусі пра ажыцьцяўленьне Міжнароднага пакту пра грамадзянскія і палітычныя правы. У мерапрыемстве прымалі ўдзел прадстаўнікі ААН у Беларусі, прадстаўнікі афіцыйных уладаў РБ (МЗС, МУС, Генеральная пракуратура, Канстытуцыйны суд, Дзяржкамдрук і г.д.) і беларускія праваабарончыя арганізацыі (БАЖ, БХК, ПЦ «Вясна-96»). Прадстаўнікі праваабарончых арганізацыяў зачыталі даклады, якія пацьвярджалі факты шматлікіх парушэньняў правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь. Але з боку афіцыйных уладаў не было падрыхтаваных дакладаў. Гэтым афіцыйныя ўлады засьведчылі тое, што ім не было чаго сказаць па заўвагах Камітэту па правах чалавека.

*22 сьнежня* скончыўся тэрмін 15-дзённага адміністратыўнага арышту журналіста Валерыя Шчукіна, асу-

джанага за ўдзел у прафсаюзнай акцыі 5 лістапада. Валерыя Шчукіна мусілі выпусьціць са сьпецразьмеркавальніка ў 14 гадзінаў. А ў 10 раніцы па яго прыйшлі супрацоўнікі міліцыі і сказалі: «На выхад!». Шчукін адказаў, што нікуды з імі ня пойдзе. Тады яго схапілі і гвалтам пацягнулі па падлозе на вуліцу, дзе кінулі ў сьнег. В.Шчукіна даставілі ў суд Цэнтральнага раёну г.Мінска, каб судзіць за ўдзел у акцыі 6 сьнежня, прысьвечанай 50-ым угодкам з дня абвяшчэньня Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Падчас судовага паседжаньня міліцыянты ўварваліся ў кабінет да судзьдзі Анатоля Барысёнка і кінулі В.Шчукіна на падлогу. Але судзьдзя перанёс разгляд справы на 28 сьнежня.

*23 сьнежня* жонкі і маці беларускіх палітзьняволеных зьвярнуліся з лістом да вядомага расійскага хакеіста Паўла Бурэ. «Нашыя дзеці і мужы сядзяць у турме толькі за тое, што не пабаяліся выступіць супраць А. Лукашэнкі... Тым часам вы публічна сустракаецеся з беларускім прэзідэнтам і гэтым самым аказваеце падтрымку грубаму, некампетэнтнаму кіраўніку, які давёў краіну да ганьбы, а нас — да гора і сьлёзаў», — гаворыцца ў лісьце, які падпісалі маці Андрэя Клімава і ягоная жонка Тацьцяна, маці Аляксея Шыдлоўскага, жонка Уладзіміра Кудзінава.

*23 сьнежня* шаснаццацігадовага навучэнца Цэнтру прафесійнай адукацыі Партызанскага раёну Станіслава Карашчанку выклікалі ў Камісію па справах непаўналетніх па месцы жыхарства. У камісіі Станіславу Карашчанку патлумачылі, што ён ня мае права хадзіць на мітынгі пакуль яму ня споўніцца 18 гадоў. Яму сказалі: «Ня ты гэтую ўладу выбіраў, не табе супраць яе выступаць». Станіславу Карашчанку вынесьлі папярэджаньне за ўдзел у акцыі 6 сьнежня (паводле арт. 167 ч. 1 КаАП РБ).

*28 сьнежня* — на гэты дзень актывісты грамадзянскай ініцыятывы «Хартыя-97» падалі заяўку на правядзеньне на рагу вуліц Няміга і Раманаўская Слабада сьвяточнага пікету (з удзелам Дзеда Мароза і Сьнягуркі і раздачай падарункаў ад «Хартыі-97») у абарону правоў чалавека і падтрымку беларускіх палізьняволеных.

**Інфармацыйны адзьдзел "Вясны-96"**

# Двойчы выгнаньнікі

## Беларусь ня стала "прыёмнаю маці" для студэнтаў-афганцаў

Праблема «афганскіх бежанцаў» — студэнтаў з Афганістану, якія прыехалі вучыцца ў Савецкі Саюз і вымушаныя былі застацца жыць у Беларусі, паўстала пасьля вываду савецкіх войскаў з Афганістану.

Да гэтага Белдзяржуніверсітэт даваў афганскім хлопцам адукацыю, жыльлё ў інтэрнаце, новых сяброў і новыя жыцьцёвыя мэты. Тады лічылася, што атрымаўшы дыпломы яны вернуцца дадому, каб «прыносіць карысьць радзіме». Але лёс разважыў па-іншаму: спачатку сыйшоў у нябыт Савецкі Саюз, потым быў скінуты ўрад Наджыбулы, і ў выніку былыя афганскія студэнты засталіся ў Мінску без усялякай надзеі вярнуцца калі-небудзь на Радзіму, дзе блізкія іх загінулі альбо зьніклі бяз зьвестак, а іх чакае ў выпадку вяртаньня такі ж лёс.

Махамад Хусэйн прыехаў у Мінск у 1988 годзе. Вучыўся на факультэце журналістыкі, атрымаў дыплом, а калі ў Афганістане перамаглі талібы, вырашыў застацца тут, у краіне, якая стала ягоным родным домам. БДУ пайшоў насустрач такім як Махамад Хусэйн і ягоныя сябры (дарэчы, афганцаў-эмігрантаў у Мінску няшмат) і пакінуў за імі месцы ў інтэрнатах (вядома, за кошт большы, чым са студэнтаў) пасьля сканчэньня ўніверсітэту. Але гэтым летам для афганцаў сур'ёзна паўстала пытаньне аб атрыманьні палітычнага прытулку ў Беларусі, бо статус студэнта скончыўся. Узьнікла неабходнасьць узаконіць сваё месцазнаходжаньне ў нашай краіне.

Зьвярнуўся да ўладаў з просьбай і Махамад Хусэйн, падрабязна растлумачыўшы ўсе перыпетыі свайго лёсу ў заяве аб прадстаўленьні палітычнага прытулку.

20 ліпеня гэтага года ён атрымаў адказ надзіва кароткі і лаканічны: «Зыходзячы нумар 1346... Грамадзяніну Афганістану Махамаду Хусэйну паведамляецца, што Камісіяй па пытаньнях грамадзянства пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь вам адмаўляецца ў прадстаўленьні палітычнага прытулку на тэрыторыі Беларусі і горада Мінска, а таксама прадпісваецца ў месячны тэрмін аформіць належную візу і пакінуць межы Беларусі».

На гэтым лісьце, да якога не прыкладаецца больш ніякіх матывіровак і тлумачэньняў, стаіць пячатка Мінгарвыканкама. Ніхто з адказных асобаў ня выклікаў Махамада Хусэйна на асабістую аўдыенцыю. Гэткія ж лісты-адмовы атрымалі і іншыя былыя студэнты-афганцы. Некаторыя хлопцы, атрымаўшы гэтае паведамленьне, у роспачы кідалі іх у сьметнік. Махамад Хусэйн сваё захаваў — як апошні падарунак краіны, якая стала за 10 гадоў ягонай другой Радзімай.

Прайшло ўжо даволі шмат часу пасьля таго, як у колішняй магутнай Савецкай краіне культываваўся інтэрнацыяналізм. Вучні ў школах зьбіралі сшыткі і адзеньне для дзэтак Нікарагуа, а савецкія хлопцы гінулі ў гарах Афганістана за незразумелыя ім інтарэсы чужой рэвалюцыі. Навучаньне ў нашых ВНУ моладзі з «трэцяга свету» тады віталася, краіна сапраўды імкнулася стварыць належныя ўмовы для замежных студэнтаў, беручы на сябе, такім чынам, пэўную адказнасьць за іх лёсы. Студэнты гэтыя, асабліва афганцы, якія канчаткова страцілі з-за вайны сувязь з бацькоўскім домам, заводзілі тут новыя сувязі, набывалі сяброў, пачыналі новае жыцьцё. У пэўны момант яны зразумелі, што яно зацягнецца надоўга, магчыма, назаўжды, і пачалі дбаць аб наладжваньні сабе ўжо не часовага, а сапраўднага прытулку. Пры гэтым яны, па словах Махамада Хусэйна, ня думалі, што нашая краіна калі-небудзь вырашыць пазбавіцца ад іх. «Тым больш крыўдна, — кажа Махамад, — што я і мае сябры ніколі не парушалі законаў Беларусі».

Адмаўляючы афганскім хлопцам у палітычным прытулку, улады спасылаюцца на «грамадскую думку» — маўляў, сваім грамадзянам немагчыма забясьпечыць годнае жыцьцё, а тут яшчэ і "чужыя". Але былыя афганскія студэнты нічога ня просяць у дзяржавы — ні працы, ні кватэры, ні сродкаў на сваё існаваньне. Не сакрэт, што практычна ўсё афганскае зямляцтва ў Беларусі займаецца гандлем, уладкоўваючыся ў прыватныя камерцыйныя структуры. Яны, гандлюючы алеем і макаронамі, самі клапоцяцца пра сябе і нават дапамагаюць атрымаць працу шмат каму з беларускіх грамадзянаў. Менавіта так эмігранты з «трэціх краінаў» уладкоўваюцца ва ўсім сьвеце — не патрабуючы ад урадаў практычна нічога апрача права вольна хадзіць па вуліцах, бо на сваёй Радзіме яны пазбаўленыя і гэтага права.

Сёньня ж у Мінску, па словах Махамада Хусэйна, складана стала проста існаваць па горадзе: на працягу аднаго вечара міліцыянты могуць тройчы праверыць дакументы. Некалькі разоў яго затрымлівалі і прывозілі ў РАУС «да высьвятленьня асобы», дзе ён і знаходзіўся разам з бамжамі ды правапарушальнікамі датуль, пакуль не адшуквалі яго сябры і не прыязджалі вызваляць, даказваць, што ён — асоба цалкам легальная.

Махамад адчуў на сабе і іншы ўціск, калі паспрабаваў распачаць свой уласны бізнес на цалкам легальнай глебе. Да яго адразу пачаліся захады з боку чыноўнікаў, ад якіх залежала паставіць той ці іншы подпіс альбо пячатку: яны амаль адкрыта патрабавалі хабар. Скончылася тым, што Махамад Хусэйн страціў надзею пераканаць улады розных узроўняў у тым, што ён — ня злодзей і не патэнцыйны махляр, а проста чалавек, які жадае сумленна зарабляць сабе на жыцьцё.

Сусьветнай супольнасьцю прызнаны факт генацыду, які «талібы» ажыцьцяўляюць у дачыненьні да хазарэйцаў — маленькае нацменшасьці, 58 тысячаў прадстаўнікоў якое былі зьнішчаныя за апошнія месяцы. Хусэйн належыць якраз да гэтае нацыянальнасьці. Тым ня менш, на палітычны прытулак у Беларусі яму спадзявацца ўжо не даводзіцца...

Дасьць Бог, ён знойдзе свой кут на зямлі ў вольным заходнім сьвеце. Але якую горкую думку пра Беларусь, што заўсёды славілася сваёй гасьціннасьцю, павязе з сабой гэты двойчы выгнаньнік?

**Ц. П.**

## Андрэй МЕЛЬНІКАЎ

# Вандроўка за краты

Пасьля абеду чакаем "раскідкі па хатах". Некаторыя мае "калегі" па каранціну мараць патрапіць у вялікую "хату", маўляў: "Там ня сумна..." Аднак нікога з маіх часовых суседзяў мне пасьля пабачыць не ўдаецца...

Спачатку "выхопліваюць" тых, каго накіроўваюць у другі корпус. Мне, як навенькаму, хлопцы прадказваюць першы і раяць прыхапіць з сабою белы хлеб, дзьве ці тры пайкі якога ў нас ёсьць. Але калегі хлеб з сабою не бяруць, адмаўляюся і я.

Мяне забіраюць апошнім. За дзьвярыма прымушаюць расьпісацца па дыяганалі ў нейкім сьпісе рэчаў, якія я нібыта атрымліваю. І, сапраўды, адразу ж выдаюць матрац, коўдру, ручнічок і дзьве прасьціны. Мне здаецца, што расьпісваўся я яшчэ за нешта, аднак высьвятляць ужо запозна.

Разам з Бітым Дзедам мяне вядуць у далёкі канец другога паверху. Дзеда запіхваюць у хату № 31, мне ж кажуць ісьці далей. Паварот, пераход на другі бок і каманда: "Стой! Хата "тры-тры!".

У новай "хаце" адразу ж кідаецца ў вочы яе большая дагледжанасьць, чысьціня і... камфорт. "Дальняк" абгароджаны мятровым бар'ерам і мае дзьверы. Да трубы пачэплены рулон паперы, ёсьць і "чопік" ці "абязьянка" — затычка для "ачка". Над умывальнікам нешта кшталту самаробнай палічкі, на якой ляжаць мыльніцы, скрыначка з зубнымі шчоткамі і пастай. Трохі вышэй на сьцяне — пара дробных люстэркаў, яшчэ вышэй — самаробны каляндарык з пакрэсьленымі па сёньня днямі. Зьлева ад уваходу, побач з "баянам", тумбачка, і на ёй — тэлевізар!..

Гэта для мяне нечаканае дзіва. Потым даведваюся, што тэлевізары (целекі) у гарадзенскай турме ў "хатах" упершыню зьявіліся ў 1994 годзе. Быў абмежаваны толькі памер экрану: да 37 сантыметраў. Дарэчы, з электрапрыбораў дазволеныя таксама электрабрытвы. Але разетка ў "хаце" адна і нейкія прылады дзеля падключэньня некалькіх прыбораў разам забароненыя. Электрычнасьць "даюць" звычайна толькі ў "гадзіны пік": гадзіну раніцай, гадзіну ў абед і чатыры гадзіны да адбою. Гэта пэўным чынам стварае дадатковыя нязручнасьці, аднак дзеля тэлевізара іх можна і пацярпець.

Пры ўваходзе ў "хату" пасьцеленая мокрая анучка. Выціраю ногі і вітаюся. Насельнікі — іх чацьвёра, па адным на "шконку" — сустракаюць мяне, можна сказаць, добразычліва. Аднак матрац прапануюць пакласьці на падлогу — паміж "шконкамі" і "баянам". Заўважыўшы маё зьдзіўленьне, тлумачаць, што такім чынам пачынаюць тут усе: гэта " не ў падлу". Веру ім і, дзякуй Богу, не памыляюся.

Увогуле, быць даверлівым за кратамі — ня варта, бо небясьпечна. "Ня бойся!" і "Ня вер!" — аксіёмы месцаў зьняволеньня. Бо перамагаюць тут ня толькі больш моцныя, але і больш подлыя. "Падставіць" тут могуць элементарна, асабліва шчырых і даверлівых...



Знаёмімся. На ніжніх шконках два адстаўныя палкоўнікі, якім няма яшчэ і пяцідзесяці гадоў. Наверсе — банкір і мытнік. Усе па першым разе. Адзін з палкоўнікаў, хударлявы і доўгавалосы, пачынае мяне распытваць: "круціць пальцы". Другі, лысаваты і таўсматы, час ад часу таксама ўстаўляе свае "дзьве капейкі". Астатнія маўчаць, але назіраюць з цікаўнасьцю.

"Хата", у якую я патрапіў, была амаль цалкам ізаляваная ад "турэмнага руху": яна тупіковая. Наверсе знаходзіцца ці то мянтоўская прыбіральня, ці то кладоўка, а ўнізе — быццам бы "кіча". Па словах "старшога" "хаты", а ім прызначыў сябе даўгавалосы палкоўнік, там сядзяць "падсадныя". Высьветліў гэта адзін "аўтарытэт", які патрапіў у "тры-тры". Суседзі зьнізу дакучалі тутэйшым жыхарам, вымагалі праз "панараму" гарбату, кілбасу, цыгарэты. "Аўтарытэт" дазнаўся, хто яны, моцна прыпалохаў іх, і яны замоўклі.

Адзіныя нашыя сапраўдныя суседзі — "малышы" з "тры-чатыры". Яны часам выходзяць "на кружачку" з просьбамі даслаць "курыць" альбо "чайку".

Мяне па-ранейшаму не пакідае ўпэўненасьць на хуткае вызваленьне. Мне здаецца, што як і пра Шарамета, пра мяне паведаміла ўжо ўся апазіцыйная прэса, і тысячы маіх прыхільнікаў выходзяць на вуліцы змагацца за маё вызваленьне. Дарэмна мае суседзі спрабуюць давесьці мне, што раней, чымсьці праз два месяцы, адсюль ніхто не выходзіць... Мяне "заносіць", і мая перакананасьць перадаецца маім сукамернікам. Ім, пэўна, здаецца, што ў маёй асобе ў "хаце" зьявіўся "шчасьлівы білет". Некалькі тыдняў яны будуць спадзявацца на нейкія багатыя "дачкі", каляровы тэлевізар, трохпраграмны радыёпрыёмнік і іншыя выгоды ды патрымку ад маіх сяброў-апазіцыянераў. Але ім і мне давядзецца перажыць жорсткае расчараваньне...

Літаральна праз пару гадзінаў пасьля засяленьня мяне выклікаюць на прадол. Мент неахайна абмацвае мае кішэні і вядзе ўніз. Пакідае ў "стакане". Там ёсьць яшчэ адзін хлопец прыблізна майго ўзросту. Кажа, што прывезьлі яго з "капейкі" (гэта першая зона, якая сярод блатных лічыцца "чырвонай" — на ёй робяць мэблю, а пакараньне адбываюць прадстаўнікі ўладных структураў, мянты ды "аўтаматчыкі"). Заўважаю на руцэ ў хлопца добры гадзіньнік з металічным брасьлетам. У турме ж, па словах зэкаў, гадзіньнік мець не дазваляюць і, убачыўшы, адразу адбіраюць...

Нарэшце дзьверы "стакана" расчыняюцца. Выходзім. Апроч знаёмага вусатага прапара, нас сустракае яшчэ і самазадаволены высокі бландзінчык, які памахвае ў паветры нечым падобным на закрыты парасончык. Электрашокер, здагадваюся я.

Прапар задае нам анкетныя пытаньні, зазіраючы ў асабістыя справы, потым перадае папкі бландзінчыку. Значыць, павязуць некуды за межы турмы, бо гэты своеасаблівы рытуал праводзіцца менавіта перад вывазам. Нас з хлопцам прышпільваюць адзін да аднаго "брасьлетамі" (кайданкамі) і бландзінчык пачынае "рэкламаваць" свой электрашокер: што будзе з намі, калі мы ў нечым яму не падпарадкуемся...

Пазьней гэтага чэкіста (а нас "рыхтавалі" да перавозкі на допыт у КДБ) прыгадае ў сваім інтэрв'ю газеце "Свабода" П. Шарамет. Перад ім ён таксама памахваў электрашокерам. Ня думаю, што ён зьбіраўся яго прымяніць, але, пэўна, уладаньне такім "прыборам" надавала яму велічы ды значнасьці ва ўласных вачах.

І вось нас выводзяць са "стакана", грузяць у "сабачнік".

Паехалі!

*(Працяг будзе)*

*Працяг.*
*Пачатак у №№ 17-23.*

**Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96". Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў. Адрас рэдакцыі: 220007 Менск, а/с 88. E-mal:rights@v96.open. by Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.**

*У нумары скарыстаныя малюнкі А. Карповіча і фотаздымкі з архіву Цэнтра "Вясна-96"*